# Новабудоўля шостай пяцігодкі



*На здымку: брыгада бетоншчыкаў Віктара Драгуна праводзіць укладку бетона пад фундамент 1-га турбагенератара.*





*На здымку: мантаж новага бетоннага завода.*



Яшчэ два гады назад тут рос лес. Ён цягнуўся ўздоўж ракі Бярэзіны, падступаў да самай вёскі Шацілкі. І вось сюды прыйшлі будаўнікі. Загрукаталі магутныя экскаватары, скрэперы, бульдозеры. Узняліся ў неба ажурныя стрэлы вежавых кранаў. І не пазнаць цяпер нават старажылам навакольных вёсак і паселішчаў былых пясчаных узгоркаў. На іх месцы выраслі цэлыя вуліцы. Тут будуецца буйнейшая ў Беларусі Васілевіцкая дзяржаўная электрастанцыя, якая будзе работаць на базе невычарпаемых залежаў торфа гэтага раёна. Там, дзе раней вілася вузкая палявая сцежка, пралягла шаша, якая звязвае велізарную будаўнічую пляцоўку электрастанцыі з чыгункай.

Над шырокім прасторам тут удзень і ўночы не сціхае шум матораў. Узводзяцца дзесяткі аб'ектаў. Поўным ходам ідзе кладка сцен чатырохпавярховага службовага корпуса, рыццё катлавана — берагавой насоснай, бетаніроўка фундаментаў мазута - рэзервата. Пачалася планіроўка пляцоўкі для мантажу кацельнай гаспадаркі. У цэнтры ўвагі будаўнікоў — галоўны корпус станцыі. Ужо ясна акрэслены контуры машыннай залы, дзе раз месцяцца чатыры магутныя турбагенератары. Пад фундамент першага з іх ужо ставіцца арматура.

Некалькі часу таму назад сюды прыбыў земснарад. Ён будзе пракладваць падводзячы канал з Бярэзіны да галоўнага шлюзарэгулятара станцыі. Праз гэтую сістэму цыркуляцыйных трубак вада будзе ахалоджваць турбагенератары.

З кожным днём павялічваецца парк механізмаў на будаўнічай пляцоўцы і патрэба ў электраэнергіі няспынна расце. Да нядаўнага часу тут карысталіся невялікімі рухавікамі. А цяпер на поўную магутнасць працуе спецыяльны энергапоезд. Велізарны аб'ём працаёмкіх работ, які прадстаіць выканаць будаўнікам, выклікаў неабходнасць стварэння цэлага раду падсобных прадпрыемстваў: лесазавода, механічных і сталярных майстэрнь, заканчваецца мантаж аўтаматычнага, бетоннага завода, які будзе даваць за суткі па 3 тысячы кубаметраў масы.

Па чыгуначнай ветцы, якая падыходзіць да самай будаўнічай пляцоўкі станцыі, штодзённа прыбываюць эшалоны з рознастайнымі будаўнічымі матэрыяламі. У стварэнні самай буйнай у рэспубліцы электрастанцыі прымаюць удзел дзесяткі фабрык і заводаў Савецкай Беларусі і другіх брацкіх рэспублік. З Клімавіч шлюць сілікатную цэглу, Крычава — цэмент, Бабруйска — піламатэрыялы, Гомеля — арматуру.

Вялікую дапамогу будаўнікам электрастанцыі аказваюць заводы Расійскай Федэрацыі і Украіны, прыступіўшыя да выканання заказаў станцыі. Ленінградскі металічны завод імя Сталіна пастаўляе магутныя турбіны, разлічаныя на звышвысокія параметры. Падольскі механічны завод імя Арджанікідзе — катлы і дапаможнае абсталяванне. З Кіева прыбудзе стометровая зборная жалезабетонная труба для кацельні, з Іванаўскай вобласці паступяць электрычнае абсталяванне і прыборы для аўтаматычнага кіравання станцыі.

У цяперашні час творчая ініцыятыва паўтаратысячнага калектыву будаўнікоў — рабочых, майстроў, тэхнікаў і інжынераў накіравана на максімальнае паскарэнне тэмпаў будаўніцтва і яго паталенне.

Будні калектыву будаўнікоў станцыі запоўнены напружанай і самаадданай працай совецкіх людзей, якія прыехалі сюды з розных канцоў рэспублікі стварыць у глыбі Палесся новую энергетычную базу.

На ўсіх участках намячаюцца канкрэтныя мерапрыемствы па датэрміноваму пуску ў эксплуатацыю многіх важных аб'ектаў. І кліч, кінуты перадавікамі будоўлі аб закананчэнні першай чаргі станцыі к канцу 1957 года — на год раней вызначанага ўрадам тэрміна, актыўна падтрымалі ўсе рабочыя.

Хутка пачнецца збудаванне высокавольтнай лініі для перадачы электраэнергіі ў Гомель. Паніжальныя падстанцыі на гэтай лініі, якія намечана пабудаваць пад Гомелем і Рэчыцай, дазволяць падключыць да сістэмы навакольныя калгасы, соўгасы і машынна-трактарныя станцыі. Акрамя першай высокавольтнай лініі, якая ў далейшым будзе злучана ў адзінае энергетычнае кальцо «Беларусэнерга», намечана пракласці лініі высокага напружання ў 220 тысяч вольт у напрамку на Мінск і 35 тысяч вольт — на торфапрадпрыемства «Васілевіцкае — 2», што зараз спецыяльна будуецца для забеспячэння ДРЭС мясцовым палівам.

Непадалёку ад прамысловай пляцоўкі размешчан жылы гарадок будаўнікоў. Роўнымі радамі паабапал цэнтральнай вуліцы яго бялеюць шматлікія двухпавярховыя дамы. Побач — магазіны, пошта, клуб. Паралельна гэтай вуліцы ўжо забудоўваюцца другая, трэцяя, чацвёртая. Цяпер у гарадку ўзводзяцца школа, гасцініца, лазня, бальніца і многія іншыя комунальныя і культуральна - бытавыя ўстановы. Тут будуць пабудаваны палац культуры, дзіцячы сад і яслі.

Частымі гасцямі ў будаўнікоў электрастанцыі з'яўляюцца артысты Гомельскага абласнога тэатра, канцэртныя брыгады Белдзяржэстрады. Да паслуг будаўнікоў — бібліятэка, якая налічвае больш 5 тысяч тамоў тэхнічнай, навуковай і мастацкай літаратуры, клуб, чытальня кіно.

Па шостаму пяцігадоваму плану развіцця народнай гаспадаркі СССР запісана: «Закончыць будаўніцтва Васілевіцкай электрастанцыі» Гэтае важнейшае заданне партыі будаўнікі станцыі абавязаліся з гонарам выканаць.

Пройдзе зусім нямнога часу, як па шматлікіх праводах электрычны ток ад Васілевіцкай ДРЭС атрымаюць дзесяткі прамысловых прадпрыемстваў Гомеля, Рэчыцы, Мазыры, Бабруйска. Заззяюць электрычнымі агнямі сотні калгасных вёсак. Яшчэ больш расквітнее поўднёвы край Совецкай Беларусі.

І. ТУРЭЦКІ.



*На здымку: землечарпалка «Днепрапетроўскі — 6» капае падводзячы канал да берагавой насоснай станцыі.*



*На здымку: зманціраваны новы бетонаўкладчык у час работы.*

 

# Гэта называецца дружба?

Яшчэ ў 1950 годзе насельніцтва Мілейчыц і навакольных вёсак распачало стараннi аб ўтварэнні ў Мілейчыцах сярэдняй агульнаадукацыйнай школы.

У 1955 годзе гэтая справа ўзнімалася на сесіі Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку, на якой прынята дадатную пастанову адносна школы ў Мілейчыцах. Выпіска з пастановы Сесіі ВРН была накіравана Аддзелам асветы ВРН у Міністэрства асветы. Ведаючы патрэбы насельніцтва раёна Мілейчыц і спрыяльныя ўмовы для ўзнікнення школы, Ваяводскі Аддзел асветы ад свайго імя накіраваў разам з выпіскай просьбу, у якой шырока і дакладна даказаў патрэбу стварэння ў Мілейчыцах сярэдняй агульнаадукацыйнай школы.

М. іншым, вось што пісаў Ваяводскі Аддзел асветы ў сваім пісьме: «Матываванне неабходнасці сарганізавання новай 11-гадовай школы абапіраецца ў асноўным на тым, што найбліжэйшая (22 кілометры аддеглая) Пачатковая школа і Агульнаадукацыйны ліцэй у Семятычах перапоўнены... Інтэрнат гэтай школы таксама за малы, каб у ім змясцілася пазамясцовая моладзь, якая наймацней патрэбуе памяшкання. На 120 месц у інтэрнаце змешчана 162 асобы. Школа працуе на дзве змены і пакуль што не мае ніякіх магчымасцей далейшага развіцця.

...На тэрыторыі праектаванага раёна сярэдняй школы ў Мілейчыцах ёсць 17 поўных 7-класных пачатковых школ, якія ў г. г. далуць каля 430 выпускнікоў.

Моладзь дагэтуль мела слабыя магчымасці здабыцця адукацыі, бо ўсе гэтыя школы раскіданы на перыферыях трох паветаў: Семятыцкага, Бельскага і Гайнаўскага.

Матэрыяльны базіс пачатковай школы ў Мілейчыцах усебакова вельмі спрыяльны на адкрыццё 11-гадовай школы. Тут Ваяводскі Аддзел асветы падрабязна апісваў усе гэтыя фактычна існуючыя спрыяльныя ўмовы.

Адносна памяшкання новым настаўнікам дык у Мілейчыцах вырашэнне гэтага пытання не напатыкае на ніякія цяжкасці»...

На гэтае пісьмо пасля трох тыдняў атрымана адказ, у якім сказана: «Міністэрства асветы паведамляе, што прапанову адносна ўтварэння новай сярэдняй агульнаадукацыйнай школы ў Мілейчыцах, Семятыцкага павета, уладзіла адмоўна». І ўсё. Чаму? А хто яго ведае!

Аднак насельніцтва Мілейчыц і аколіц не спынілася ў сваіх справядлівых абгрунтаваных імкненнях.

12 студзеня 1956 года адбылося пасяджэнне Прэзідыума Грамадскай рады нарадовай у Мілейчыцах прысвечанае справе школы.

У пратаколе з пасяджэння яшчэ раз з усёй выразнасцю паказана цяжкасці, на якія напатыкае моладзь з Мілейчыц і аколіц пасля сканчэння 7 класаў. Значная колькасць не маючы ніякіх магчымасцей здабываць далейшыя веды, спыняе вучобу. У пратаколе яшчэ раз былі падкрэслены і спрыяльныя ўмовы дзеля ўтварэння ў Мілейчыцах для беларускага насельніцтва сярэдняй школы з беларускай мовай, як прадметам.

«Сарганізаванне школы дзе-б навучалася моладзь беларускай мовы, забяспечыла-б развіццё нацыянальнай культуры беларускага насельніцтва». — гаварылася ў пратаколе.

Выпіску з гэтага пратакола пераслана Ваяводскаму Аддзелу асветы ў Беластоку.

— Мо' гэтым разам лепш і справядлівей нас зразумеюць — думалі людзі.

Як водгук на хваляванні беларускага насельніцтва ў аколіцах Мілейчыц знайшлася і кароткая нататка ў «Газеце Беластоцкай» з лютага 1956 г., у якой было сказана, што насельніцтва Мілейчыц і аколіц адчувае патрэбу і хоча адкрыць у Мілейчыцах сярэднюю агульнаадукацыйную школу, дзе-б побач іншых прадметаў, моладзь вывучала-б і сваю беларускую мову.

На гэты раз Ваяводскі Аддзел асветы заспяваў інакш. Ён памінаючы ўсе факты, аб якіх паведамляў у сваім першым пісьме Міністэрства асветы, цяпер адказаў, што «пасля дакладнага здаследвання справы не бачыць ніякіх магчымасцей сарганізаваць у Мілейчыцах агульнаадукацыйны ліцэй».

Гэтую немагчымасць адкрыцця сярэдняй школы Ваяводскі Аддзел асветы матываваў тым, што не знойдзецца дастатковая колькасць кандыдатаў.

Адносна таго, што тэрыторыю вакол Мілейчыц засяляе беларускае насельніцтва якое хоча, каб у новаадкрытай сярэдняй школе была беларуская мова, Ваяводскі Аддзел асветы адказаў: «Беларуская моладзь у сучасны момант мае дастатковую колькасць сярэдніх школ — у Бельску, Гайнаўцы, а таксама беларускія класы ў Педагагічным Ліцэі ў Бельску». Гэта канчатковы прысуд Ваяводскага Аддзела асветы на дамаганні беларускага насельніцтва.

Падпісаў яго гр. Асцілоўскі — кіраўнік Ваяводскага Аддзела асветы.

Усё гэта нейк дзіўна выглядае. Як-жа разумець? Адзін раз Ваяводскі Аддзел асветы гаворыць, што сярэдняя школа патрэбна, бо шматлікая моладзь не мае магчымасці далей вучыцца (яно сапраўды так), другі раз, што не знойдзецца патрэбная колькасць кандыдатаў. З гэтым другім тэзісам ніяк не можна згадзіцца. Бо ў Мілейчыцах сапраўды сярэдняя школа, дзе-б вывучалася беларуская мова, вельмі патрэбная. Перш: дзеля таго, што школа ў Семятычах не ў сілах забяспечыць усёй моладзі Семятыцкага павета здабыванне сярэдняй адукацыі — другое — Мілейчыцы і шматлікія навакольныя вёскі засяляе беларускае насельніцтва, якому патрэбны штуршкі, якія-б будзілі адарваныя ад свету беларускія вёскі да бурлівага творчага жыцця і стварылі-б умовы развіцця нацыянальнай культуры беларусаў.

А роля школы ў адным і ў другім выпадку з'яўляецца вялікай. Гэтаму трудна пярэчыць.

Другая справа: не мае рэальнай падставы сцвярджэнне Ваяводскага Аддзела асветы, што беларускае насельніцтва мае дастатковую колькасць сярэдніх беларускіх школ.

Аказваецца, што Ваяводскаму Аддзелу асветы, а таксама Міністэрству асветы зусім невядомая сітуацыя на ніве беларускай асветы ў Польшчы. А вось некалькі фактаў: 1) У гэтым годзе ў Беларускім Ліцэі ў Гайнаўцы і Бельску ўтворана па два паралельныя 8-ыя класы. Аднак кандыдатаў было столькі, што нпр. у Бельску хапіла-б яшчэ на ўтварэнне двух класаў. 2). У Беларускім Ліцэі ў Бельску вучацца маладыя людзі з Сакольскага і Беластоцкага паветаў. Чаму? Бо хочуць вучыцца ў беларускай школе, а яе ў сябе не маюць. 3) Усё яшчэ мала і беларускіх настаўнікаў. Значыць няма дастатковай колькасці сярэдніх школ для беларускага насельніцтва. І таму там, дзе ёсць умовы і патрэба ўтварэння беларускай школы, трэба яе адкрыць. А і адно і другое ёсць у Мілейчыцах.

Прыпамінаюцца словы гр. Асцілоўскага, які падчас адной з нарад беларускага актыву заявіў: «Я ваш (г. зн. беларусаў) прыяцель. Працуйце. Будзем дапамагаць».

Вось, калі дайшло да справы і беларусы просяць і справядліва дамагаюцца школы, выяўляецца, што з гэтымі прыяцельскімі адносінамі не зусім добра. Гр. Асцілоўскі не хоча паклапаціцца, каб задаволіць справядлівыя жаданні беларусаў — адкрыць у Мілейчыцах школу. Гэта тым больш здзіўляе, што гр. Асцілоўскі гаворыць, што будзе адкрыта польская школа ў Драгічыне. Навошта многа гаварыць. Глянем на карту, які раён Драгічын, ці Мілейчыцкі бліжэй да Семятыч, ці да іншай найбліжэйшай сярэдняй школы?

Праўду сказаць, то абрыдлі ўжо ўсе гэтыя бюракратычныя камбінацыі, махінацыі і абыякавасць школьных улад да праблемы беларускай асветы. Хочацца, каб урэшце і Ваяводскі Аддзел асветы і Міністэрства асветы больш сур'ёзна пачалі адносіцца да гэтага і не лічыць, што праблема беларускай асветы другарадная ў іх працы.

ВЕРА ЛЕУЧУК



*На здымку: партызаны. Стаяць ад левай: Рыгор Саевіч, Аляксандр Юрчук і Біглюк. Сядзяць — невядомыя партызаны.*

А. ОМІЛЬЯНОВІЧ (4)

## ПАРТЫЗАНЫ

На другі дзень, мая жонка паведаміла немцаў, што я «набіўшы» яе ўзяў ды ўцёк да «лясных». Пацвердзіў гэта нямецкі солтыс. Хітрасць удалася і немцы не чапалі маёй сям'і.

У гэту саму ноч праз кантактную скрынку трапілі мы ў партызанскую групу Івана Іванавіча. Яе камандзірам быў Васіль Пятровіч. На працягу двух дзён мы абмяркоўвалі з гэтай групай дакладны план прывядзення ў партызанскі атрад астатніх таварышаў.

10 жніўня 1943 года ўначы ўсім атрадам пайшлі мы ў Навасады за Саевічам, Яноўскім і іншымі. У хаты, дзе жылі людзі звязаны з падполлем уваходзілі партызаны і нібы «сілаю» забіралі добраахвотнікаў. У вёсцы пачуліся крыкі і плач жанчын. Крычалі, што «бандыты» сілаю забіраюць мужчын. Гітлераўцы пачалі кідаць ракеты, у святле якіх бачылі групкі ўзброеных людзей, якія «гналі» у бок пушчы сялян.

У гэтую памятну ноч і такім спосабам з Навасадаў пайшло ў партызанскі атрад 15 чалавек. Пакінулі яны сем'і, дзяцей, маёмасць. Не кожнаму лёгка было памірыцца з новым лёсам.

— Партызаны прынялі нас гасцінна — працягваў далей Саевіч. Раніцой пазнаёміліся з атрадам, а некаторым з нас далі зброю. Для ўсіх нам аднак яе не хапіла. На лясной паляне абмеркавалі мы план нашай далейшай дзейнасці. Было пастаноўлена, што ўсе пойдзем у Свіслоцкую пушчу, у якой знаходзіўся штаб атрада імя Калініна, дзе атрымаем патрэбную колькасць зброі і ўказанні для далейшай дзейнасці.

Разам з намі ішло 30 чалавек. Вёў нас лейтэнант Пашка. Не ўсе мелі зброю, некаторыя выразалі сабе кійкі, каб хоць такім чынам прытварацца, што маюць зброю. Паход праз пушчу і лясы не быў лёгкім. Трэба было абмінаць большыя дарогі, перакрадацца цераз лясныя прасекі, ісці праз гушчары і зараснікі.

На другі дзень паходу ўвайшлі мы ў такое багна, што часам правальваліся аж па самыя грудзі і глыбей, трымаючы высока над галавой зброю. Пасля двух сутак блукання па лясах і балотах надышлі мы на назіральныя пасты атрада «Калініна».

Гэты атрад знаходзіўся ў дрымучых лясах. Прывіталі нас сардэчна. Распытвалі пра навіны з Белавежскай пушчы.

З вялікай цікавасцю прыглядаліся мы да партызанскага жыцця. А было на што глядзець. Сярод дрэў ды кустоў стаялі палаткі і шатры з кары і галля, дымілі вогнішчы, усюды кіпела праца Чысцілі зброю, адбываліся абучэнні па партызанскай тактыцы, палітычныя гутаркі. Так «на вока» лагер налічваў каля 300 чалавек. Камандзірам атрада з'яўляўся афіцэр Чырвонай Арміі вядомы пад прозвішчам Сцяпана Сцяпанавіча.

У атрадзе было некалькі палявых радыёстанцый, друкаваліся лістоўкі. Самалёты дастаўлялі зброю, боепрыпасы, харчы. Недзе ў лясах знаходзілася пасадачная пляцоўка для самалётаў. Групы гэтага атрада безупынна праводзілі дыверсыйныя аперацыі, узрывалі паязды і масты, паралізуючы такім чынам, значныя сілы праціўніка.

На другі дзень пасля прыбыцця ў партызанскі лагер забралі нам усе дакументы, забяспечылі зброяй і падрыхтавалі для партызанскай прысягі. Невялічкая палянка запоўнілася партызанамі. Атрад устанавіўся поўколам. Насупраць уставілі нас, добраахвотнікаў. Перад намі стаў камандзір атрада і камісар. Трымаючы ўгору два пальцы паўтаралі мы словы ўрачыстай прысягі.

Я не з сентыментальных людзей аднак адчуваў, што ў той момант нешта сціскала мяне за горла і «макрэлі» вочы. Мы-ж стаялі на вольным ад тэрору і фашызма кавалачку роднай зямлі. Прысягалі, што да апошняй кроплі крыві будзем бязлітасна змагацца са зненавіджаным ворагам за свабоду Краіны Советаў і Народнай Польшчы.

Гэты момант, гэты дзень я хіба не забуду праз усё сваё жыццё. Ды не толькі я, памятаюць гэта і іншыя. З таго моманту мы сталіся сапраўднымі партызанамі — коратка кажучы, уключыліся ў жыццё ўсяго атрада. Трэба было аднак вяртацца ў Белавежскую пушчу, дзейнічаць.

Забяспечаны лістоўкамі і іншымі неабходнымі рэчамі пакідалі мы гасцінны атрад імя Калініна. Цяпер з'яўляліся мы ўжо групай гэтага атрада. Нашу групу ўзначальвала двух афіцэраў Чырвонай Арміі: Васіль Пятровіч і Ігар.

*(Працяг будзе)*



 




# КАЗКА ПРА БАРАНА

*Было гэта вельмі даўно, калі не было на свеце бюракратаў, чаргоў і іншых непатрэбных рэчаў.*

*Тады людзі не з'яўляліся залежнымі ад начальнікаў забеспячэння МГД, самі шылі адзёжу па сваіх размерах, без комунальнага аддзела самі пасяляліся ў пячорах, мэблю з растэрміноўкай плацежу не купялі, а агонь здабывалі з крэменя хутчэй чым мы пры дапамозе сучасных запалак.*

*Менавіта ў той час спаткаліся пры бярвенні перакінутым цераз лясную рэчку баран і цяля. Маладосць заўсёды з'яўляецца ўпартай і самаўпэўненай, таму цяля ні за што не хацели даць дарогу старому барану. Атрымалася, падобна як у нашых аўтобусах і цягніках, дзе моладзь не ўступіць месца старэйшым.*

*Баран упёрся моцным ілбом у цяля, якое страціўшы роўнавагу ўпала ў ваду.*

*У гэтым нічога няма здзіўляючага, у наш час і дарослыя быкі часта трацяць роўнавагу.*

*Кожны мае свой шчаслівы дзень, рэчка аказалася неглыбокай, цяля не ўтапілася, выйшла на бераг і распускаючы ад плачу сліну пабегла да сваёй мамы — каровы са скаргай (тады яшчэ не было аддзелаў скарг).*

*Карова выслухала цяля, ветліва палізала яго, памахала рагамі і маючы доўгі язык усім звярам расказала пра хуліганства барана.*

*Праз дзень лес ужо аж гудзеў аб гэтай падзеі і слых дайшоў да ільва.*

*Леў — дыктатар, па цікавасці прыклікаў барана, агледзеў яго спераду і ззаду, і звяртаючыся да міністра — мядзведзя, сказаў:*

*— Упартасць гэтага барана — дадатная рыса. Апроч гэтага здаецца, што ён — моцная жывёліна. Бач як ён свае рогі за вушы загнуў, вазьмі гэтага барана да сябе сакратаром.*

*Не было тады начальнікаў кадр, таму правільнасць меркавання ільва аб баране не было каму спраўдзіць.*

*Мядзведзь па сваёй натуры гультаяваты, так як і некаторыя людзі, быў здаволен бараном, які з прычыны сваёй упартасці не дапускаў звяроў са скаргамі, а мядзведзю здавалася, што жыхары лесу вельмі здаволены мядзведжымі парадкамі.*

*Карацей кажучы, быў гэта класічны прыклад адарванасці кіраўніцтва ад мас.*

*Таму не здзіўляйцеся, дарагія чытачы, калі ў якой-небудзь установе выпадкова сустрэнецеся з бараном. Напэўна ён там яшчэ ад старых часоў застаўся.*

Дзядзька Ляваль

## Шчырая размова

А ці вы чулі кума?

— Ой чула, куманька, чула.

— Ну і як вы думаеце?

— Ой, куманька, таксама як і вы.

— Я думаю, што з гэтага нічога не будзе.

— Ой, ка-бы вы ведалі, што і мне так здаецца... (к)

## „Пакляўся..."



— Чаму заплюшчваеш вочы, калі п'еш гарэлку?
— Я пакляўся, што і глядзець на яе не буду.

## Навука

Грамадская думка: — Эх, школьнік ты, школьнік, як табе не сорам, пры нас, старэйшых людзях, курыць...

Школьнік далей спакойна курыць.

Грамадская думка: — Ці вас у школе вучаць курыць? Кінь папяроску, бо паклічу міліцыянера!

Школьнік: — Памалу памалу, вы дзейнічаеце ўстарэлымі метадамі, цяперака-ж дэмакратызацыя. (к)

## Пераканаў

Дбалы і гаспадарны дырэктар прамысловага прадпрыемства, які хутка зразумеў наш шлях да соцыялізма, на рабочай нарадзе стараўся пераканаць усіх сабраных, што цяпер паміж работнікамі і інтэлігентамі няма і не можа быць ніякай розніцы...

Адзін работнік устаўшы спытаўся:

— А чаму ні адзін інтэлігент нашага прадпрыемства добраахвотна не хоча ехаць у ПГР-ы капаць бульбу?

Дырэктар вельмі ласкава, махаючы рукамі адказаў:

— Зразумейце-ж мае даражэнькія, што ў апошнім часе наша ўся інтэлігенцыя занята вялікімі справаздачамі... (к)

## Ёсць яшчэ і такія



*Яму не патрэбна думаць... Усе інструкцыі ён мае ў галаве.*

Галоўны рэдактар ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

# ЦІ СВЕТ, ЦІ СВІТАЕ

*Народны зборнік А. Грынявіча.* *Гарманізацыя К. Галкоўскага*



Ці свет, ці світае,
Ці на зоры займае,
Ці мой міленькі, голуб сівенькі,
Коніка сядлае.

Сядлай мілы, каня,
Каня вараненькага,
Прыязджай, мілы, не кідай, мілы,
Мяне маладзеньку!

Ці-ж я не такая,
Як і гэта другая,
Я-й харошая, я-й прыгожая,
Доля-ж нешчасная!

Ой у полі азёрца,
Там плывала вядзёрца,
Ой прыдзі, мілы, дый парадзімся,
Мае мілае сэрца!

# АГАФОН АБРОТКА АГІТУЕ




*Знаюць Зані, Грышкі, Колі,*
*Знаюць усе рэбяты ў школе.*
*Агафончык разважае:*
*«Няхай усе людзі знаюць».*

*Наш Абротка абышоў*
*У вёсцы ўсіх гаспадароў*
*Казаў: — Зразумейце людзі,*
*Дбайце ўсе, лягчэй нам будзе.*

*Не іншаў уступіў і бюра:*
*— Усім работнікам культуры*
*Патрэбна, абавязкова,*
*Незабудзьце роднай мовы.*

*Быў у вёсцы ў кожным доме,*
*У гародзе ўсім знаёмым —*
*Рэбятам, дзяўчынам, цёткам,*
*Усім прыказу Абротка.*

*У парку паразмаўляў з дзедкам.*
*Той, пачуўшы пра газету,*
*Кажа, падкруціўшы вусы:*
*— Выпішуць усе беларусы.*

*— Ужо снежань наступае —*
*Абротка прыпамінае:*
*«Ніву» хай на другі год»*
*Выпіша ўвесь народ.*

Орган Беларускага грамадска - культурнага таварыства ў Польшчы Адрас рэдакцыі гор Беласток, вул Маніфесту Ліпцовага 25, тэл 25 89 Умовы падпіскі на 6 месяцаў — 15 зл. 60 гр., на 3 месяцы — 7 зл 80 гр Падпіску прымаюць усе паштовыя ўстановы, пісьманосцы Konto NBP I Oddz. Miejski Nr 102-7-161 w Białymstoku. Prenumeratę za zleceniem wysyłki zagranicę przyjmuje PKWZ „Ruch" Warszawa, Aleje Jerozolimskie 119, tel 8-05-05, konto PKO 1-6-100024 Warszawa. Cena prenumeraty zagranicę: kwartalnie 10,15, półrocznie 20,30, rocznie 40,60. Паліграфічнае прадпрыемства ў Беластоку Т-7-1935